# Дняроўская СТРОМА




№ 4 чэрвень 2012 г.

Выдаецца з мая 2012 г.

ЛІТАРАТУРНА - МАСТАЦКІ І ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
МАГІЛЁЎСКАГА АБЛАСНОГА АДДЗЯЛЕННЯ САЮЗА БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ


## Прысвечана Пушкіну

6 чэрвеня 2012 г., у дзень нараджэння А.С.Пушкіна, Магілёўскі дзяржаўны бібліятэчны каледж імя А.С.Пушкіна зладзіў вечарыну, прысвечаную памяці знакамітага рускага паэта. Загадчыца бібліятэкі каледжа Алена Кандраценка агучыла біяграфічныя звесткі, звязаныя са знаходжаннем Пушкіна ў Магілёве. Гучалі вершы магілёўскіх паэтаў Алеся Казекі і Анастасіі Кананковай, прысвечаныя паэту, артысты тэатра Палаца культуры вобласці пад кіраўніцтвам Алы Кусковай зрабілі інсцэніроўку вядомых пушкінскіх вершаў. У вечарыне прынялі ўдзел галоўны рэдактар мінскага часопіса "Планета – сям'я" Яўген Крыцкі, старшыня ГА "Рускае культурна-асветніцкае таварыства" Людміла Валодзька, а таксама госці з Варонежскай вобласці Расіі – паэты Віктар Будакоў і Васіль Кулікоў-Ярмонаў. Дырэктар каледжа Святлана Казлова выказала думку, што паэзія гэтых цікавых паэтаў павінна загучаць па-беларуску. Завяршылася вечарына выступленнем старшыні Магілёўскага абласнога аддзялення СБП Міколы Яцкова, які падкрэсліў, што літаратура, культура і духоўнасць не маюць межаў, і трэба заўсёды шукаць і знаходзіць магчымасці аб'яднання ўсіх творцаў, якія самааддана працуюць на светлую будучыню сваіх народаў і дзяржаў. Ад імя пісьменніцкай арганізацыі расійскім гасцям былі ўручаны памятныя падарункі.





Алена Кандраценка



Святлана Казлова

**Сяргей ПІСЬМЕННЫ.**

Фотаздымкі В.Арцем'ева і М.Яцкова.



Васіль Кулікоў-Ярмонаў і Віктар Будакоў



Мікола Яцкоў



## Статут ВКЛ - у Магілёве!

9 чэрвеня 2012 г. ў Магілёве у гарадской ратушы адбылася прэзэнтацыя выкупленага ў Расіі за $ 45 тыс.экзэмпляра статута Вялікага Княства Літоўскага, выдадзенага ў 1588 годзе Львом Сапегам.

У залю пасяджэнняў ратушы паглядзець на беларускую рэліквію прыйшлі больш за паўсотні магілёўцаў.



Вось ён - Статут ВКЛ

Дырэктар музея гісторыі Магілёва Аляксей Бацюкоў, звяртаючыся да грамады, адзначыў: *«Магчымасць выкупіць статут з'явілася дзякуючы таму, што была вялікая грамадская падтрымка. Гэта адно са зьвёнаў вялікага ланцуга па вяртанні гістарычна-культурных каштоўнасцяў у Беларусь».*



А.Бацюкоў, З.Яцкевіч і А.Радкоў



Выступае М.Яцкоў

Інфармацыю пра продаж статута з адкрытага аўкцыёну адшукаў беларускі студэнт Андрэй Радкоў. Расійскі калекцыянер першапачаткова прасіў за статут 52 тысячы даляраў. Спадару Радкову ўдалося зменшыць цану да 45 тысяч.

Удзячнасць грамадскасці за дапамогу ў выкупе статута выказваў на прэзэнтацыі і гісторык Зміцер Яцкевіч. Ён ездзіў у Маскву, каб спраўдзіць, ці сапраўдны экзэмпляр статута. *«Галоўнае, што ён ёсць, што ён з намі. Так, як ён быў тут і раней — у гэтай ратушы. І раней магілёўцы карысталіся ім для вырашэння сваіх спраў»,* — распавядаў грамадзе Зміцер Яцкевіч.

На прэзэнтацыі статута прысутнічаў аўтар музыкі да гарадзкога гімну Магілёва Мікола Яцкоў. Яго ўражанні ад падзеі: *«Я знаходжуся сення ў гэтым святым месцы, магілёўскай ратушы, ад муроў якой ідзе сіла магілёўцаў. Пра які ў тыя далёкія часы казалі, што гэта сталіца бунтаў на Літве. Сёння часцінка той гісторыі, статут Вялікага Княства Літоўскага, вярнуўся праз столькі гадоў на сваю радзіму. Я вельмі рады, што дажыў да гэтага дня».*

На прэзэнтацыі было агучана, што выкуплены статут Вялікага Княства Літоўскага застанецца ў музеі гісторыі Магілёва, які месціцца ў ратушы.

Паводле www.svaboda.org

Фотаздымкі Г.Ільной і М.Яцкова

## Тапаніміка - гэта важна

11 чэрвеня Магілёў наведалі Вінцук Вячорка і Пётра Садоўскі. Некалькі дзясяткаў магілёўцаў, што сабраліся ў сядзібе па завулку Чкалава, з цікавасцю паслухалі разважанні шаноўных мовазнаўцаў аб сённяшніх праблемах гарадской тапанімікі. Нельга не пагадзіцца з імі, што назвы вуліц, плошчаў ды іншых геаграфічных аб'ектаў перанасычаны прозвішчамі людзей, якія ніякага дачынення да Беларусі не маюць або нават дзейнічалі як яе ворагі. Выпраўляць такую сітуацыю неабходна, але рабіць гэта трэба ўдумліва.

Спачатку трэба высветліць, якія назвы мелі тыя вуліцы першапачат-



кова. Бо першая назва была не ад улады, а ад людзей, якія там сяліліся. Вуліца, што вяла на Вільню, называлі Віленскай, а што вяла ў бок балота – Ба-


Пётра Садоўскі і Вінцук Вячорка

лотнай. Вуліца, дзе былі гарбарныя майстэрні, называлі Гарбарнай, дзе жылі яўрэі – Жыдоўскай, і г.д. Найчасцей тыя аўтэнтычныя назвы і трэба вяртаць, – лічыць спадар Вячорка.

Ён даволі крытычна паставіўся да ініцыятывы кампаніі "Гавары праўду" аб увекавечанні імя Васіля Быкава ў назвах вуліц Гародні і Менску. Тое, што вуліцы з гэтым імем павінны быць у беларускіх гарадах, не выклікае пярэчання. Але ж у Гародні прапануюць так пераназваць вуліцу Курганную, што носіць гэтую сімвалічную назву ўжо некалькі стагоддзяў.


Тамара Аўсяннікава ўважліва занатоўвае...

Вячорка распавёў, што "мода" мяняць назвы беларускіх вуліц пачалася з 1860-х гадоў, праз некалькі год пасля задушэння паўстання К.Каліноўскага. Гэта стала яшчэ адной старонкай задушэння беларускага змагарнага духу.

У жывой гутарцы было закранута шмат іншых аспектаў названай праблемы. Шмат, але далёка не ўсе. І госці палічылі, што варта прыехаць у Магілёў яшчэ раз для працягу размовы. І закрануць не толькі праблемы геаграфічных назваў, але і праблемы правільнага напісання асабістых імён і прозвішчаў. Будзем чакаць такога працягу. Тут аўтар гэтай нататкі мог бы падзяліцца і


Міхась Булавацкі ў задуменні...

сваім досведам, як ён памяняў у пашпарце імя *Міхаіл* на *Міхась* і змагаўся з літарай "о" у рускамоўным варыянце свайго прозвішча.

***Міхась БУЛАВАЦКІ.***

Фотаздымкі - сайт www.222.by

# ТРЫ ПРЫПЫНКІ



У чэрвені 2012 года мне давялося наведаць родныя мясціны незабыўнай Гомельшчыны.

**Першы прыпынак** зрабіла ў Лоеве. 21 чэрвеня ў Лоеўскай цэнтральнай раённай бібліятэцы па запрашэнні яе дырэктара, Тамары Сцяпанаўны Навуменка, я сустрэлася з сябрамі клуба аматараў паэзіі, які існуе пры бібліятэцы ўжо больш трыццаці гадоў - аж з 1981 года. Яго нязменным кіраўніком з'яўляецца Алесь Кукара, былы выкладчык Лоеўскага педагагічнага каледжа. Са сваімі выхаванцамі прыйшла і Галіна Сусла, выкладчык гэтай жа навучальнай установы, кіраўнік паэтычнага гуртка "Маладыя галасы". Прыемным падарункам для мяне стала сустрэча са школьным настаўнікам па



рускай літаратуры Мікалаем Фёдаравічам Мельнічэнкам, які з'яўляецца актыўным наведвальнікам клуба. Прысутныя зацікаўлена аднесліся да маёй творчасці, расказалі аб сабе, пачыталі вершы. Добрым словам мы ўспомнілі сваіх землякоў - Анатоля Грачанікава (ён некалі расказваў мне, як босым хадзіў у Лоеў за пашпартам), Міхася Даніленку, які ў гэтым годзе адзначыць сваё 90-годдзе, Алу Канапелька і іншых. Выступоўцы гаварылі аб тым, што такая сустрэча для іх з'яўляецца важнай падзеяй. Выказалі надзею, што будзем сустракацца яшчэ.. Амаль тры гадзіны мы гутарылі, а часу ўсё роўна нам не хапіла. Перашкодай стаў аўтобус, на які я магла спазніцца. На станцыю мяне



праводзіў мой настаўнік Мікалай Фёдаравіч, у якога да мяне было яшчэ многа пытанняў...


Лоеўскі край
Твой раён — твая газета!
Раённая масава-палітычная газета
№53 (9244) от 07.07.2012

***СУСТРЭЧА З БАЦЬКАЎШЧЫНАЙ***

*Талент - гэта уменне гарэць, бачыць ва ўсім магчымасць, а не перашкоду. Менавіта з такім адораным чалавекам, нашай зямлячкай, паэтэсай, празаікам, членам Саюза беларускіх пісьменнікаў Тамарай Аўсяннікавай адбылася сустрэча ў чытальнай зале цэнтральнай бібліятэкі з удзельнікамі клуба аматараў паэзіі "Гучальнае слова", членамі гуртка "Маладыя галасы" Лоеўскага педагагічнага каледжа, чытачамі бібліятэкі. Прысвячалася гэтая сустрэча Году кнігі.*

*Як паведаміла нам намеснік дырэктара Лоеўскай раённай цэнтральнай бібліятэчнай сістэмы Т. Цімошчанка, накіраванкамі творчай дзейнасці Т.Аўсяннікавай з'яўляюцца паэзія, проза, публіцыстыка, літаратуразнаўства. Свой першы верш, які быў змешчаны ў школьнай газеце, яна напісала ў 11 год. А потым яе творы, у тым ліку і артыкулы аб творчасці Яўгеніі Янішчыц і Ніла Гілевіча, друкаваліся ў рэспубліканскіх і абласных перыядычных выданнях. Яна з'яўляецца аўтарам лекцый па тэорыі вершаскладання і аналізу паэтычных твораў.*

*Лірыка Тамары Аўсяннікавай рознабаковая па тэматыцы і па настрою. Яскравым увасабленнем таленту паэтэсы сталі яе тры зборнікі - "Ноты сэрца", "Лістапад гадоў", "Любачка". Зараз Тамара Пятроўна прымае ўдзел у падрыхтоўцы збора твораў Яўгеніі Янішчыц, з якой доўгі час сябравала.*

*У ходзе сустрэчы прысутныя змаглі пазнаёміцца з жыццёвым і творчым шляхам Тамары Аўсяннікавай. Нарадзілася яна ў вёсцы Сяўкі. Вучылася ў мясцовай васьмігадовай школе, потым у Малажынскай СШ. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Працавала настаўніцай, бібліятэкарам, інжынерам, метадыстам. Атрымала другую вышэйшую адукацыю эканаміста, зараз знаходзіцца на заслужаным адпачынку.*

*Вершы і проза пранікнёна і замілавана гучалі падчас сустрэчы ў выкананні аўтара. У іх апісваліся дарагія, да болю знаёмыя карціны роднага краю, беларускай прыроды. Радкі яе вершаў перапоўнены любоўю, дабрынёй, спачуваннем, імкненнем жыць.*

*На працягу мерапрыемства паэтэса адказвала на пытанні прысутных, знаёмілася з творчасцю мясцовых паэтаў і празаікаў, такіх як Алесь Кукара, Мікалай Мельнічэнка, Галіна Сусла, Гелена Краўчанка, Ірына Новік. Наталля Кудраўцава выканала аўтарскія песні. Сустрэча прайшла ў цёплай, сяброўскай атмасферы. У адрас Тамары Пятроўны гучала шмат шчырых слоў удзячнасці за творчасць, якую яна падаравала аматарам паэзіі, чытачам бібліятэкі.*

**Запісала Святлана Місарэнка.**

**Другі прыпынак** - Сяўкі. Вёска стаіць на мяжы з Брагінскім раёнам. Можа таму яе ў часы рэарганізацый далучалі то да Брагінскага, то да Рэчыцкага раёнаў. Сяўкі нельга назваць заняпалай ускраінай. Тут калгасам пабудавана новая вуліца з прыгожымі дамамі, школай і дзіцячым садкам, з Домам культуры. Вёска вырасла і папрыгажэла. Адно засталося нязменным: як хадзілі да ветру, так ходзяць. І памыцца, як след, кожны дзень не памыешся.

У Сяўках я скончыла васьмігодку. Там пахаваны мой бацька і продкі па яго лініі. У суседняй Бераснёўцы - радня з боку маці. Амаль усе ўжо на пагосце. Я наведала магілы маёй радзіны...

22 чэрвеня я сустрэлася са сваімі землякамі ў Сяўкоўскім цэнтры народнай творчасці, дзе дырэктарам Ала Мікалаеўна Фалей. Адбылося ўсё намаганнямі Валянціны Іосіфаўны Шаўчук, настаўніцы беларускай мовы і літаратуры, якая піша гісто-




Валянціна Давыдаўна Глушак, Валянціна Іосіфаўна Шаўчук, Таццяна Міхайлаўна Крупейчанка, Тамара Пятроўна Аўсяннікава, Тамара Сяргееўна Шапавал, Вольга Рыгораўна Рубін, Ганна Сцяпанаўна Сіраж, Іван Сцяпанавіч Брэгід

рыю Сяўкоўскай васьмігадовай школы,і бібліятэкара Людмілы Валянцінаўны Чучвара. Для мяне гэтая сустрэча была вельмі шчымлівай. Прысутнічалі мае родзічы і аднавяскоўцы, якія ведаюць мяне з дзяцінства. Асабліва ўсім пасавала, што ў маіх творах яны пазнавалі знаёмых, родныя мясціны. Таму і слёзы цяжка было стрымліваць і ім, і мне.

Маё сэрца было ўзрадавана тым, што ў Сяўкоўскім цэнтры народнай творчасці працуе народны калектыў “Лутава”, які 25 гадоў таму, у 1987 годзе, сабрала Тамара Сяргееўна Шапавал. Лутава - назва вёскі, у якой жыве Тамара Сяргееўна, а нарадзілася яна ў Сяўках. Сем жанчын ва ўросце пасля сямідзесяці захоўваюць вялікі скарб, амаль цэлы пласт беларускай культуры - абрадавыя песні.




*Я ПАМЯТАЮ...*

*Куды б ні завяла нас жыццёвая сцяжына, мы ўсё роўна будзем трымаць у сваім сэрцы добрыя, прыемныя ўспаміны пра сваю Бацькаўшчыну, родны куточак. Нават праз гады будзем памятаць бацькоўскі дом, водар толькі што спечаных матуліных пірагоў - усё, што нагадвае нам наша дзяцінства, юнацтва. А ці магчыма жыць без усяго гэтага?.. Кожны мярКУЕ па-свойму, а я лічу, што не...*

*Зусім нядаўна да нас у рэдакцыю патэлефанавала кіраўнік народнага калектыву “Лутава” Тамара Шапавал. Яна расказала пра сустрэчу, якая адбылася ў вёсцы Сяўкі, з членам Саюза беларускіх пісьменнікаў Тамарай Аўсяннікавай.*

*На мерапрыемства прыйшло шмат мясцовых жыхароў. Тыя, хто крыху старэйшы, прыпомнілі гэтую жанчыну. Ды і не дзіва, бо родам яна з Сяўкоў... Пісьменніца з ахвотай чытала свае вершы, напісаныя на роднай мове, і цікавым было тое, што кожны слухач падчас сустрэчы ўзгадваў менавіта сябе, сваю вёсачку, сваіх суседзяў, бо радкі вершаў былі праСКНУты думкамі і ўспамінамі пра родны край, пра людзей, шчырых і добразычлівых, якія жывуць на гэтай зямлі.*

*Пад канец сустрэчы жадаючыя змаглі сфатаграфавацца са сваёй зямлячкай, задаць ёй пытанні, на якія пісьменніца адказала з задавальненнем.*

**Марыя Бухавец.**

Трэці прыпынак - Малажынская сярэдняя школа Брагінскага раёна, якую я скончыла ў 1966 годзе. Сустрэча з выпускнікамі. Прыехалі шэсць маіх





аднакласнікаў. Скрушна, што толькі адно маё выступленне было на роднай мове. Але ж усе з задавальненнем слухалі і потым дзякавалі за беларускую мову, за беларускія вершы. Для некаторых аднакласнікаў мае вершы сталі прыемнай нечаканасцю...

...Зваротная дарога на Магілёў паказалася больш доўгай. І чамусьці ўспомніліся шчымлівыя радкі Рыгора Барадуліна:

*Трэба дома бываць часцей,*
*Трэба дома бываць не госцем,*
*Каб душою не ачарсцвець,*
*Каб не страціць святое штосьці...*

**Тамара АЎСЯННІКАВА.**

# Сяргей УКРАІНКА



* * *

Прасую набожнік
мамін:
паганскае сонца
на белым
(васьмінітовы абрус!)...
Ты думала: Нехта *явіць*.
Ты ведала: Нехта *правіць*.
Ты бачыла: Нехта *навіць*.
Скажы мне нарэшце:
ён – хто?..

* * *

Дубцом дубовенькім,
дубцом выганяю сваю маладосць.
А яе не прагнаць жа, бедную:
Над возерцам маім
вечаруе,
як ні ноч – мае сны падпільноўвае,
і ўсё шэпча мне (прыхаджанцу!)
пра вечнае.

* * *

Вылічыўшы працягласць імгнення,
хапнуўся за валасы…
Час, пачакай, калі ласка!

* * *

Вывернуў злосць
на расплаўлены летам асфальт
і
аж сцепануўся ад холаду.
“Вярнуся, – падумаў, –
апрану што цяплейшае”.
Не пайшоў...
Адно паглядзеў на вакенца:
там, за гардынаю жоўтаю, –
твой сілуэт.

* * *

Сказала суцешным голасам:
“Маўчы, я табе ўжо не жонка.
Ды нават ужо і не сябар.
Я – твой нявечны анёл”.

* * *

… Надзея выжыць спачыла ў бозе,
калі, падобна глухой сцяне,
усе тапельцы Святога возера
пасталі кругам вакол мяне.

Сутонне рэдзілі ўсцяж зарніцы.
Сіпелі гады ў гнілых лаўжах.
А я, самлелы, глядзеў дурніцаю
на ўцеляснёны ў пачварах жах.

Ды ўсё ж ачуцца было мне суджана
расяным досвіткам. На траве.
З дзявочым голасам,
што прастуджана
хрыпеў у хворай маёй галаве:

“Ты ж чуеш, дзядзька, мяне, вядома,
хоць розум твой і блукае дзесь.
Хай у змарнелай тваёй свядомасці
Умолле гэта не прападзе.

Ніхто не быў з нас раднёю Каіна –
не вінаватыя мы ні ў чым,
а толькі возера не адпускае нас,
хоць і завецца яно Святым.

Каб душы нашы знайшлі дарожачку
ці ў рай, ці ў пекла – Яму відней, –
ты памаліся за нас, нябожачкаў.
Ты памаліся. Хаця б у сне”.

# Пра нас пішуць...

*У чэрвеньскім выпуску “Літаратурнай Беларусі” надрукавана інфармацыя аб выхадзе ў свет першага нумара “Дняпроўскай стромы”*




## «ДНЯПРОЎСКАЯ СТРОМА»

**Выйшаў у свет першы нумар літаратурна-мастацкага і інфармацыйнага бюлетэня Магілёўскага абласнога аддзялення ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» «Дняпроўская строма».**

У ім — матэрыялы пра пасяджэнне літсуполкі і аднаўленне дзейнасці абласнога аддзялення (дадаюцца фотарэпартаж і пратаколы), звесткі і фотаздымкі новапрынятых у СБП літаратараў Магілёўшчыны. У рубрыцы «Наша гісторыя» Іван Аношкін распавядае пра літаратурную Магілёўшчыну. Бюлетэнь знаёміць і з рэгіянальнымі літпадзеямі, а таксама змяшчае верш ветэрана Вялікай айчыннай вайны, пісьменніка, члена СБП Фелікса Шкірманкова — і сардэчныя віншаванні яму.







Нумар, надзвычай насычаны ілюстрацыйным і даведачным матэрыялам, існуе не толькі ў папяровай версіі — ён рассылаецца і ў электронным фармаце. Адказны за выпуск і яго рэдактар — старшыня Магілёўскага абласнога аддзялення СБП Мікола Яцкоў.

А надоечы ў Магілёўскай абласной бібліятэцы адбылася імпрэза, прысвечаная 130-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. Была разгорнута кніжная выстава. Супрацоўнікі бібліятэкі расказалі аб галоўных жыццёвых падзеях Я.Купалы і Я.Коласа ў кантэксце гісторыі Беларусі.

У імпрэзе прыняў удзел старшыня Магілёўскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў Мікола Яцкоў, які распавёў аб удзеле Янкі Купалы ў Вайсковай камісіі 1919 г. і аб гісторыі з'яўлення купалаўскага песеннага цыкла «На вайсковыя матывы». Быў прэзентаваны зборнік «На вайсковыя матывы. Песні на ваяцкі лад» з вершамі Я. Купалы, музыку да якіх напісаў М. Яцкоў. У ягоным і Алы Яцковай выкананні прагучалі тры песні з гэтага зборніка. М. Яцкоў перадаў у падарунак бібліятэцы некалькі новых кніг, выдадзеных руплівасцю С. Чыгрына і Саюза беларускіх пісьменнікаў. У імпрэзе таксама прыняла ўдзел пісьменніца Т. Аўсяннікава.

**Ул. інф.**

# НАША ГІСТОРЫЯ



## Іван АНОШКІН
## МАГІЛЁЎШЧЫНА ЛІТАРАТУРНАЯ

*( Працяг. Пачатак у № 1, 2 )*

У гэтай філіі праявілі сябе студэнты педтэхнікума, а пазней вядомыя пісьменнікі Кастусь Губарэвіч, Юрка Лявоінны, Васіль Каваль.


Кастусь Губарэвіч

Тут, на роднай Магілёўшчыне, рабілі свае першыя крокі ў літаратуру Андрэй Ушакоў, Барыс Мікуліч і іншыя нашы землякі. Свае творы маладыя пісьменнікі змяшчалі ў газеце «Соха и молот», яе літаратурным дадатку «Зарніцы», у газеце «Магілёўскі селянін», літаратурным зборніку «Дняпроўскія ўсплёскі», а таксама ў рэспубліканскім перыядычным друку. Філія клапацілася аб творчай вучобе літаратурнай моладзі, прапагандзе роднай мовы, культуры, літаратуры, праводзіла літаратурна-мастацкія вечары, сустрэчы.

Юрка Лявонны

Тым часам не толькі на Беларусі, але і ва ўсёй савецкай краіне назіралася супрацьстаянне, барацьба розных літаратурных плыняў. Набірала сілу камандна-адміністрацыйная сістэма, якая імкнулася як мага тужэй зацугляць пісьменнікаў, дыктаваць ім, што і як пісаць. Зніклі пісьменніцкія аб'яднанні, усё большую моц меў афіцыёзны РАПП (Расійская асацыяцыя пралетарскіх пісьменнікаў), а ў нашай рэспубліцы адпаведна — Беларуская асацыяцыя пралетарскіх пісьменнікаў.


Васіль Каваль

Гэтая рэарганізацыя не абмінула і Магілёў — у лістападзе 1928 года літаратурная суполка тут была аб'яўлена філіяй Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў, хоць практычна ў яе творчым накірунку прыкметных змен не назіралася.


Андрэй Ушакоў

У 1929 годзе філія выпусціла зборнік «Ранне», дзе былі змешчаны вершы тады яшчэ юнага Аркадзя Куляшова з вёскі Саматэвічы Касцюковіцкага раёна, імя якога цяпер носіць наш Магілёўскі універсітэт.


Барыс Мікуліч

Так, сёння мы ганарымся, што народны паэт Беларусі Аркадзь Куляшоў — сын нашай Магілёўшчыны. Тут ён нарадзіўся, вучыўся, стварыў і надрукаваў свае першыя вершы.

*(Працяг будзе)*

# Новая кніга Кастуся Севярынца

У віцебскім "Еўрапейскім доме" 24 чэрвеня 2012 года адбылася вечарына, прысвечаная выхаду ў выдавецтве "Логвінаў" зборніка паэзіі і прозы *"Пока цветёт сирень"* вядомага віцебскага літаратара Кастуся Севярынца. Прысутныя паслухалі ўсхваляваны апо-





Наведнікі


Кастусь Севярынец


Мікола Яцкоў

вед аўтара аб жыцці і складаных сутарэннях сучаснасці, якія ператвараюцца ў паэтычныя вобразы. Прагучалі вершы ў непаўторным аўтарскім выкананні.

Аб сваіх пачуццях да творчасці К.Севярынца выказаліся кіраўнік "Еўрапейскага дому" Хрыстафор Жаляпаў, карэспандэнт газеты "Віцебскі кур'ер" Георгій Каржанеўскі, загадчыца літаратурнай часткі Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Я.Коласа Святлана Дашкевіч, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў Уладзімір Папковіч.

У вечарыне таксама прыняў удзел старшыня Магілёўскага абласнога аддзялення СБП Мікола Яцкоў, які звярнуў увагу на песенныя асаблівасці паэзіі К.Севярынца і ў якасці прыклада выканаў некалькі сваіх песень на вершы гэтага аўтара. А затым падвёў своеасаблівую рысу вечарыне вось гэтымі сваімі радкамі:

*У кожнага стагоддзя свой Кастусь,*
*Які аддасць усё за Беларусь!*

**Аліна САВІЦКАЯ.**

Фотаздымкі А.Яцковай і М.Яцкова.

## Константин СЕВЕРИНЕЦ

**УЗЕЛОК**

*Память ниточкою*
*вьётся.*
*Знаю больше,*
*чем скажу.*
*Там, где ниточка*
*порвётся,*
*Узелочек завяжу.*

**ЦАРАПИНКА**

*Может, вспомню*
*перед смертью*
*Из того, что позади,*
*Как рвалось безумно сердце*
*За тобою из груди.*
*Замирало, трепыхалось,*
*Холодело, жгло огнём...*
*... А всего-то и осталось –*
*Лишь царапинка на нём.*

**АМИНЬ**

*Не стоит про бессмертие - пустое.*
*Перед Всевышним мы и так равны:*
*И я,*
*Чья жизнь гроша не стоит.*
*И Женщина,*
*Которой нет цены.*
*Когда к душе подступится забвенье,*
*И потеряю всё, что берегу,*
*Я встану перед нею на колени,*
*Но вымолить прощенья не смогу.*

# Паэзія магістралі


Тамара Аўсяннікава


Аўтары зборніка "Паэзія магістралі"

26 чэрвеня 2012 года у Магілёве адбылася прэзентацыя кнігі *"Паэзія магістралі"*, якая выпушчана да 15-годдзя клуба паэзіі, што працуе пры Магілёўскім цэнтры культуры і адпачынку чыгуначнікаў. Сярод іншых у зборніку змешчаны вершы сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў Тамары Аўсяннікавай. На прэзентацыі яны прагучалі ў аўтарскім выкананні.

**Міхась БАРАЗНА.**

"ДНЯПРОЎСКАЯ СТРОМА"
Літаратурна-мастацкі і інфармацыйны бюлетэнь
Магілёўскага абласнога аддзялення
ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў".
Распаўсюджваецца на правах
унутранай дакументацыі.

Адказны за выпуск -
Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі,
вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: mikolabryl@gmail.com

Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць
за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падпісана да друку 30.06.2012 г.. 21.00.
Наклад 50 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.

«Дняпроўская строма» заўсёды на
www.kamunikat.org